№ 66 (4113)

26 жніўня 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

## Людзі «гінуць» за метал...



Алесь СІВЫ

Асабіста для мяне Алімпіяда – гэта не ачкі, галы, секунды. Ну што з таго, што тытулаваны Усейн Болт прабег 200 метраў за 19,78 секунды, а цяпер ужо 23-разовы алімпійскі чэмпіён Майкл Фелпс праплыў 200-метроўку батэрфляем за 1.53,36? Прабег – і прабег, праплыў – і праплыў. Для мяне на першым месцы падчас Алімпійскіх гульняў – людзі. Спартсмены, у якіх я не бачу машыны па здабычы медалёў з каштоўнага металу. Трэнеры, якія сціпла знаходзяцца на другім плане, але часам выходзяць і на авансцэну. Спартыўныя чыноўнікі, паводзіны якіх падчас такіх адказных спаборніцтваў могуць сказаць больш пра чалавека, чым некалькі гадоў яго працы ў кабінетным крэсле. Алімпіяда і тое, што адбываецца пасля яе завяршэння, – лакмусавая паперка, якая паказвае, хто і чаго варты. Хто – асоба, а хто – звычайны балбатун. З кім пайшоў бы ў разведку, а каго лепш наогул абысці.

Вось, напрыклад, дрэнна выступілі ў Бразіліі беларускія плыўцы. Не паказалі нават тых вынікаў, што паказвалі да Алімпіяды. Не пайшло на першых стартах і ў Аляксандры Герасімені. Што робіць трэнер Дзмітрый Манцэвіч? Не прымае удар на сябе, а займае пазіцыю "мая хата з краю", заяўляючы, што "перад Алімпіядай спартсмены прынялі рашэнне рыхтавацца самастойна". Так паступае нармальны мужчына і трэнер? Дарэчы, Саша пасля гэтага заваявала "бронзу" і шчыра выказалася з вышэйназванай нагоды: "Гэта крывадушнасць! Не паважаю за гэта людзей".

Парадаваліся беларусы і за 28-гадовага шматборца Аляксандра Лесуна, які нарадзіўся ў Барысаве, але залаты медаль прынёс зборнай Расіі.

*"У Беларусі мне сказалі, што я не маю права займацца спортам па стане здароўя,* – распавёў пасля перамогі спартсмен. – *Праўда, у Маскве мяне абследавалі ў пяці клініках і ні ў адной не знайшлі праблемы, пра якую казалі беларусы. А ўвогуле, у беларускай камандзе былі тры чалавекі, якія займаліся ў майго настаўніка, і адзін – у галоўнага трэнера. Калі гэты спартсмен губляў месца ў ёй, сваёй пасады пазбаўляўся і трэнер. Дапусціць такой сітуацыі ён не хацеў і рабіў усё, каб я не трапіў у асноўны склад... У маім выпадку справа ў грашах: трэнер не хацеў іх губляць і проста не дапускаў у каманду спартсмена, які займаўся ў іншага настаўніка".*

Не хачу сцвярджаць, што ў словах шматборца – стопрацэнтная праўда, але ж, напэўна, не можа быць і дыму без агню. Бо як тады пасля змены грамадзянства Аляксандр Лясун, які "не меў права займацца спортам па стане здароўя", стаў чатырохразовым чэмпіёнам свету, трохразовым чэмпіёнам Еўропы і алімпійскім чэмпіёнам? Гэта сюжэт, які мае права нават на экранізацыю! Трохкутнік: спартсмен–трэнер–грошы. Пра спорт ужо ніхто і не ўспомніць.

А хіба не драматычна разгортваліся падзеі для беларускага барца, бронзавага прызёра Алімпіяды 2000 года Дзмітрыя Дзябелкі? Арганізм спартсмена проста не вытрымаў трэніровачныя нагрузкі. Праз нейкі час урачы паставілі страшны дыягназ – гломеруланефрыт (адно з самых агрэсіўных захворванняў нырак). Тры разы на тыдзень – кропельніцы. Амаль тры гады змагання за жыццё практычна ў адзіноце, пры падтрымцы блізкіх. За той час, што Дзіма змагаўся, у асобных спартыўных чыноўнікаў як быццам памяць знікла, і яны, бы тыя страусы, дружна закапалі галовы ў пясок, забыўшы і пра былыя дасягненні спартсмена, і пра яго цяжкае становішча. Быў нават выпадак, калі Дзмітрый звярнуўся з просьбай аб дапамозе да аднаго адказнага работніка Федэрацыі барацьбы. Той выслухаў, а затым як плюнуў: "Як ты ўжо задаўбаў!"

Гісторыя алімпійца Дзмітрыя Дзябелкі мела шчаслівы працяг. Пасля рэзанансу ў СМІ спартыўныя чыноўнікі заварушыліся, дапамаглі, спартсмену зрабілі перасадку ныркі. Але колькі чалавеку і яго сям'і давялося перажыць?! Варты гэтага быў алімпійскі медаль?

Таму ачкі, галы, секунды – гэта не галоўнае. Сёння яны адны, а заўтра будуць іншыя. Як мне падаецца, галоўнае – каб людзі заставаліся людзьмі. Што ў жыцці, што ў спорце. Вось гэта – дасягненне самай высокай пробы...

ТРАГЕДИЯ

## Землетрясение в Италии: сотни погибших



И много пропавших без вести. В одной только коммуне Аккумоли пропавшими без вести числятся 150 человек.

Число пострадавших с каждым днем увеличивается. Такой результат землетрясения магнитудой 6,2, которое произошло в центральной части Италии, к юго-востоку от города Перуджа.

СЛЫШАЛИ?

## Ким Чен Ын заявил, что США теперь у него в руках

Лидер КНДР Ким Чен Ын назвал проведенное накануне удачное испытание баллистической ракеты с подводной лодки самым большим успехом для своей страны, который поставил ее в «первые ряды» ядерных вооруженных сил, сообщает Reuters со ссылкой на Центральное телеграфное агентство Кореи (ЦТАК).

«Проведенный на этот раз испытательный пуск баллистической ракеты стал успехом из успехов, победой из побед», – цитирует северокорейского лидера агентство Yonhap. «Континентальная часть США и оперативный театр в районе Тихого океана теперь в наших руках», – говорится в заявлении ЦТАК.

У ГАСЦЯХ

## Як Лукашэнка частаваў амерыканскага акцёра

Як вядома, 24 жніўня ў Аляксандра Лукашэнкі адбылася нефармальная сустрэча з вядомым амерыканскім акцёрам Стывенам Сігалам, які прыляцеў у Мінск дзеля супрацоўніцтва з буйнейшай беларускай кампаніяй – распрацоўшчыкам анлайн-гульняў. Цікава і тое, што карані госця тут, у Беларусі. А таму як было не пачаставаць яго нашымі прысмакамі – салам, бульбачкай, халаднічком, капустай... Зацікавілі акцёра і кавуны, якія ўжо каторы год вырошчваюцца на прэзідэнцкім агародзе.





НУ І НУ!

## Давялося страляць, каб спыніць п'янага кіроўцу

Здарэнне адбылося ў Крупскім раёне каля пасёлка Лянок. Як паведамляе прэс-служба УУС Мінскага аблвыканкама, супрацоўнікі ДАІ звярнулі ўвагу, што кіроўца і пасажыр Ford Mondeo не былі прышпіленыя. Да таго ж на аўтамабілі не было задняга рэгістрацыйнага нумара. Таму даішнікі развярнуліся і паехалі за парушальнікам.

Кіроўца Ford Mondeo і не думаў спыняцца, а толькі павялічваў хуткасць. Падчас уцёкаў легкавік паехаў па полі, пасля заехаў у лес. Пасля папераджальных стрэлаў у паветра даішнікі пачалі страляць у колы. Пасля гэтага аўтамабіль спыніўся, а кіроўца і пасажыр кінуліся ўцякаць. Праз 500 метраў іх дагналі і затрымалі.

Экспертыза зафіксавала ў крыві кіроўцы 2,6 праміле (пасажыр быў цвярозы). Высветлілася, што ў канцы мінулага года яго пазбавілі вадзіцельскіх правоў за кіраванне ў стане алкагольнага ап'янення. Праводзіцца расследаванне здарэння.

SOS!

## Слуцкі завод «Эмальпосуд»: крах?

Пагадзіцеся, дзве з палової сотні чалавек – не так ужо і мала. А калі ўявіць, што ў некалі індустрыяльным Слуцку адно за адным спыняюцца прадпрыемствы, то знайсці новую працу для такой колькасці людзей вельмі і вельмі праблематычна.

Завод "Эмальпосуд" выкідвае на вуліцу высокапрафесійных рабочых з-за таго, што склалася надзвычай цяжкая эканамічная сітуацыя. І гэта на прадпрыемстве, якое доўгі час з'яўлялася, можна сказаць, брэндам горада. Але праблема нават не ў гэтым. Сам завод не проста брэнд – ён унікальны. Такога чыгуна, які выраблялі ў Слуцку, не здолела наладзіць ніводнае прадпрыемства ў свеце. На завод не аднойчы прыязджалі вучыцца спецыялісты з Заходняй Еўропы, а таксама з Расіі. Аналагаў слуцкага чыгуна не існуе. Справа ў тым, што на заводзе пільна кантралявалі міграцыю бора ў так званым харчовым чыгуне. І ў гэтым вялікая заслуга мясцовых тэхнолагаў.

Дарэчы, чыгун, які вырабляецца за мяжой, дагэтуль не можа прайсці нашы санітарныя нормы. Пры тым, што прадпрыемства ўсе 90 гадоў працавала на прывазной сыравіне. Кокс набывалі ў Польшчы, чыгун дастаўлялі з кар'ераў Тульскай вобласці Расіі, эмаль – з Іспаніі. Выраблялі не толькі патэльні і іншы посуд. Высокай якасцю вызначаліся нашы слуцкія мойкі, паддоны, нават гіры. На заводзе стаялі лагранкі ёмкасцю па пяць тон. Толькі з адной такой лагранкі выраблялся ўвесь посуд.

**Людміла НАЧЫНА** 42 гады адпрацавала на прадпрыемстве. Жанчына ледзь стрымлівае слёзы, узгадваючы мінулае:

– *У нас на заводзе былі працоўныя дынастыі – бацька, сын, нявестка, сямейныя пары. Гадамі перадавалі старэйшыя майстры свае навыкі маладым спецыялістам. Як толькі ўсё пайшло наперакасяк, многія звольніліся. У апошнія месяцы то працуем, то стаім. Ніякай упэўненасці. А гэта ж і на заробках адбіваецца.*

Праблемы прадпрыемства пачаліся ў 2007 годзе, калі павысіліся кошты на чыгун, які закупалі ў Расіі. Міністэрства прамысловасці тады не дазволіла часова спыніць завод, як прасіла кіраўніцтва. У выніку ён трапіў у даўгавую яму. Выкараскаваліся самі і пры гэтым пастаўлялі 80% прадукцыі на экспарт. Потым, калі ўвайшлі ў холдынг Беларускага металургічнага завода, сталі, па-сутнасці, забяспечваць заробкі супрацоўнікам Аршанскага завода "Легмаш", бо завод ужо лічыўся яго цэхам. Сёння ўнікальныя станкі Слуцкага завода адзін за адным здаюцца на металалом. Парэзана ўнікальнае абсталяванне разам з імпартнымі кампанентамі, якія набылі адносна нядаўна. Гэтага пакуль хапае, каб плаціць заробкі аршанцам. Чаму так атрымалася? Чаму аршанскае прадпрыемства, якое ўжо дыхала на ладан, нічога не зрабіла, каб калі не палепшыць сітуацыю на слуцкім заводзе, то хаця б не тапіць яго і самому такім чынам не пайсці на дно?!

Людміла Начына, якая працавала ў аддзеле маркетынгу, ведае адказ на гэтае пытанне:

– *Аршанскае кіраўніцтва не ведала нашай спецыфікі і не стала нават яе вывучаць. А мы ж заўсёды арыентаваліся на экспарт. Ніхто гэтага не ўлічыў. Усё скасавалі і накіравалі прадукцыю выключна на ўнутраны рынак. А ён быў і без таго цалкам забяспечаны ёю. У выніку мы хутка "прагарэлі". Да гэтага мы спакойна давалі па 150 тысяч долараў штомесяц у бюджэт краіны. Нікому гэта, відаць, было не цікава. Мы сталі для аршанскага кіраўніцтва бяльмом у воку. Ну і яно з намі хутка ўправілася, як кухар з бульбай.*

Варта адзначыць, што ўнікальнае прадпрыемства спрабавалі ўратаваць замежныя інвестары. Польская фірма, згодна з планам поўнай рэканструкцыі, за чатыры месяцы прапаноўвала пабудаваць цэхі, а італьянская – забяспечыць абсталяваннем. Здавалася б: вось яно, выйсце! І завод захаваецца, і абсталяванне стане больш сучасным. А галоўнае – застанецца ўнікальная якасць і сакрэты майстэрства перададуць новым пакаленням. Але ўсе планы разбіліся дашчэнту пасля таго, як замежнікі сустрэліся з нашымі міністэрскімі чыноўнікамі. Чаго ад іх тыя захацелі, засталося за кадрам, але жаданне ўкладаць сродкі ў беларускую эканоміку знікла.

**Андрэй КАЗЛОЎСКІ** адпрацаваў на заводзе 15 гадоў. Пачынаў інжынерам па рамонце абсталявання, а потым стаў інжынерам па ўкамплектацыі. Ён гаворыць:

– *Праз якіх два месяцы не будзе пра што гаварыць. Ужо рэжуць унікальныя станкі. Калі такімі тэмпамі дабяруцца да пячэй, то ніхто аднавіць нічога не здолее. Такога абсталявання нідзе не знайсці. Разбурэнне ўнікальнага завода – злачынства! На нашу прадукцыю вялікі попыт за мяжой. Цяпер жа нам самім давядзецца набываць тыя ж паддоны за валюту з расійскага Кіраўскага завода і значна горшай якасці.*

Сапраўды, наведванне слуцкіх крамаў засведчыла, што прадукцыя "Эмальпосуда" карыстаецца попытам. У прадаўшчыцы магазіна на вуліцы Леніна пытаюмся, ці ёсць патэльня альбо гусятніца ў продажы. *"Што вы, даўно іх няма. Вось на ўвесь горад застаўся адзіны чыгунны казан на стэндзе з эмблемай завода. Вельмі шкада, што завод спыніўся. Я сама карыстаюся чыгуннай патэльняй. А ў вёсках у печ толькі такія і можна ставіць. Усе гаспадыні ведаюць, што ніякія тэфлонавыя яе не заменяць".*

У сталічных крамах прадукцыя Слуцкага завода таксама адсутнічае. На паліцах толькі ўкраінскія і кітайскія патэльні. Няўжо цяпер заўсёды будзе так?

На нашых вачах завод, які паспяхова працаваў з 1923 года, перажыў вайну, выстаяў у ліхія 90-я, не вытрымаў... пературбацый "квітнеючай эканомікі".

Сітуацыю, здаецца, яшчэ можна ўратаваць, калі на завод тэрмінова прызначыць разумнага кіраўніка і прыцягнуць замежных інвестараў для аднаўлення вытворчасці.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ДАЛЁКАЕ–БЛІЗКАЕ

## Чвэрць стагоддзя таму: трывожныя дні

*25 жніўня 1991 года была абвешчана незалежнасць Беларусі*

*Як усё адбывалася, успамінае дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання Лявон Баршчэўскі. Ён браў самы непасрэдны ўдзел у наданні Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце статусу канстытуцыйнай сілы.*

### «...І не пніцеся: мы кіравалі, кіруем і будзем кіраваць»

Дзевяносты год... Першая сесія новага Вярхоўнага Савета... Мы, дэпутаты з "нізоў", ставім пытанне пра адмену артыкула Канстытуцыі БССР аб "кіроўнай і накіроўнай ролі КПБ – КПСС". Атрымліваем крыху больш за дзесяць працэнтаў галасоў. У кулуарах да мяне падыходзіць адзін партыйны сакратар з маіх родных мясцін: "Леанід, ты не разумееш. Партыя – гэта тое, куды з тваім рылам не пускаюць. І не пніцеся: мы кіравалі, кіруем і будзем кіраваць!"

На самым пачатку другой сесіі збіраецца фракцыя, у якую ўвайшлі дэпутаты, якія атаясамлівалі сябе з Беларускім Народным Фронтам. **Зянон Пазьняк** кажа, што можа з'явіцца гістарычны шанец атрымаць незалежнасць. Таму мы, апазіцыянеры, павінны працаваць удзень і ўначы ды ствараць заканадаўчую базу сучаснай незалежнай дзяржавы.



Мяне прызначаюць адказным за распрацоўку законапраектаў пра грамадзянства, народаўладдзе і рэферэндумы. Працую ў Нацыянальнай, акадэмічнай і ўрадавай бібліятэках, чытаю і канспектую на розных мовах сотні заканадаўчых актаў самых розных краін. Афіцыйна, па лініі пастаяннай камісіі, праводжу нараду за нарадай з педагогамі-практыкамі з усіх канцоў Беларусі: "Давайце створым такі закон аб адукацыі, каб настаўнік адчуў сябе чалавекам!" У Саўміне пачынаюць навыперадкі пісаць свой праект. Дзякуй Богу, там за гэта адказвае **Аляксандр Казулін**, а з ім можна будзе дамовіцца!

### Перад путчам стаў беспрацоўным

Красавік 1991-га. У Мінску масавыя страйкі рабочых, мы ж з Пазьняком і Уладзімірам Заблоцкім з візітам у Канадзе і ЗША, які нам зладзілі тамтэйшыя беларусы. Выступаючы аднаго разу перад імі, Пазьняк кажа: "Пройдзе некалькі месяцаў, і Беларусь стане незалежнай!" Я, папраўдзе, не надта ў гэта веру, бо, здаецца, ужо добра ведаю кампартыйны бетон, які па-ранейшаму прамывае мазгі людзям.

Вяснова-летняя сесія Вярхоўнага Савета ў тым самым годзе. Большасць з трэскам чарговы раз правальвае распрацаваныя намі законапраекты. Затое актыўна галасуе за падпісанне новага "Саюзнага дагавора", згодна з якім усё сабе зноў забірае Масква, а нам пакідае хіба што Чарнобыль, рашэнне харчовай праблемы і будаўніцтва дарог...

Я не вытрымліваю. Іду ў кабінет да старшыні Вярхоўнага Савета, кажу: "Навошта былі ўсе гэтыя гульні ў пастаянныя камісіі, законатворчасць? Масква не дасць нам прыняць той закон аб адукацыі, які мы распрацавалі і абмеркавалі з людзьмі!" Кладу на стол заяву аб сыходзе з пасады намесніка старшыні камісіі. Яе тут жа задавальняюць, і з першага жніўня я вольны дэпутат.

(Заканчэнне на 5-й стар.)

